*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 41 (676)** **20 КАСТРЫЧНІКА 2004 г.**

# Вельмішаноўны спадар Казімір Свёнтак!




Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" мае за гонар павіншаваць Вас, Кардынала, арцыбіскупа Менска-Магілёўскага з слаўнай датай, 90-годдзем ад дня нараджэння.

Ваш жыццёвы шлях не быў усеяны ружамі. Падчас пераследу Каталіцкага касцёлу вы зведалі жахі савецкіх турмаў і сталінскіх канцлагераў. Вы пакутавалі, але ўсюды і заўсёды заставаліся верным Хрысту і Ягонаму Евангелію. Ваша цвёрдая грамадзянская пазіцыя - узор для іншых. Звязаўшы свой лёс з Беларуссю, Вы дабраславілі беларушчыну. Беларускамоўныя ксяндзы, беларуская імша з кожным годам пашыраюцца. У большасці касцёлаў краіны гучыць спрадвечнае беларускае слова. Ваш надзвычайны уклад у рэлігійную культуру заслужана адзначаны высокай узнагародай — прэміяй "Fidei testis" ("Сведка веры"), якую Вы атрымалі з рук Папы Рымскага Яна Паўла II.

Хай і надалей беражэ Вас Пан Езус, якому Вы "даручылі сваё жыццё".

З павагай

*Старшыня ГА*
*"ТБМ імя Ф. Скарыны"*
*Алег Трусаў.*



Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ



http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 41 (2526) Год XLIX — Беласток, 10 кастрычніка 2004 г. — Цана 2,00 зл.



Заява

Сябры Таварыства беларускай мовы, грамадзяне Беларусі занепакоеныя сітуацыяй, якая складваецца вакол беларускай беластоцкай газеты "Ніва".

Старшыня ТБМ Алег Трусаў звярнуўся з гэтай нагоды з лістом да амбасадара Польшчы ў Беларусі. Па ўсёй краіне ў арганізацыях ТБМ разгортваецца збор подпісаў у падтрымку газеты "Ніва". Лісты з подпісамі накіроўваюцца на адрас амбасады Польшчы ў Менску і консульства Польшчы ў Гародні.

Беларусы не разумеюць, як трактаваць націск польскіх уладаў на "Ніву". З аднаго боку Польшча - у Еўразвязе, а з другога махровая антыбеларускасць, як бы спісаная з праграм Арміі Краёвай першых пасляваенных гадоў. Ці можа гэта, як і ў Беларусі, ніяка не палітыка, а звычайныя стасункі "хозяйствующих субъектов", скажам, нашай пракуратуры і нейкай беларускай апазіцыйнай ці проста недзяржаўнай газеты.

*Яраслаў Грынкевіч.*

# ВЫДАТНЫ ВУЧОНЫ І ПЕДАГОГ

## Прафесару Івану Лепешаву - 80



23 кастрычніка спаўняецца 80 гадоў Івану Якаўлевічу Лепешаву - доктару філалагічных навук, прафесару кафедры беларускай мовы Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.

Чытачам "Нашага слова" вельмі добра знаёмае гэта прозвішча па яго шматлікіх артыкулах на старонках штотыднёвіка - заўсёды надзённых, цікавых, бескампрамісных, з відавочнай грамадзянскай пазіцыяй іх аўтара. Артыкулаў, якія і напісаны на адным дыханні, і гэтак жа чытаюцца на адным дыханні. Беручы ў рукі "Наша слова" і бачачы там публікацыю І.Я. Лепешава, не абмінеш яе абыякава і нізашто не прапусціш.

Ён прайшоў доўгі і складаны жыццёвы шлях. Як сам пісаў ён аднойчы пра сябе: "Быў на кані і пад канём, больш, канешне, пад канём".

Нарадзіўся ён на Віцебшчыне, у вёсцы Іскозы Дубровенскага раёна. Перад вайной паспеў скончыць 8 класаў, здаць экстэрнам экзамены за дзевяты клас, паступіць у двухгадовы Аршанскі настаўніцкі інстытут і закончыць першы курс.

З 1944 года - на III Беларускім фронце. Двойчы паранены. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны, медалямі "За адвагу", "За баявыя заслугі" і іншымі. У 1948 г. закончыў (на выдатна) настаўніцкі інстытут. 17 гадоў настаўнічаў спачатку ў Свіслацкай СШ, а пасля ў Шчучынскім раёне. Узнагароджаны знакам "Выдатнік народнай адукацыі". Выкладаючы ў школе беларускую і рускую мовы і літаратуры, завочна скончыў Гарадзенскі педінстытут (на выдатна), а ў 1971 г. - аспірантуру пры Менскім педінстытуце. У тыя ж гады публікаваўся амаль ва ўсіх беларускіх і некаторых маскоўскіх газетах, у некалькіх часопісах і змог апублікаваць у рэспубліканскім выдавецтве "Народная асвета" дзве кнігі, на якія было надрукавана аж 7 добрых водгукаў-рэцэнзій.

З 1971 года - у Гарадзенскім педінстытуце (пасля - універсітэце). Абараніў кандыдацкую дысертацыю, а ў 1985 г. - доктарскую.

Яго, у меру патрабавальнага і ў меру паблажлівага, паважаюць і любяць студэнты. Ён хутка знаходзіць з імі агульную мову.

Ён вельмі многа піша і друкуецца. На творчым рахунку прафесара - 404 публікацыі. Сярод іх 31 кніга. Амаль усе напісаны аднаасобна. Гэта манаграфіі, слоўнікі, навучальныя дапаможнікі. Варта сказаць, што тры ягоныя вялікія працы выйшлі ў самым галоўным нашым выдавецтве - "Беларуская Энцыклапедыя": двухтомны "Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы", "Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў", "Слоўнік беларускіх прыказак". Пра названы двухтомнік пісалі ў друку, што гэты вялізны і працаёмкі даведнік пад сілу хіба толькі цэламу акадэмічнаму калектыву.

Навуковыя і метадычныя працы Івана Якаўлевіча - гэта 540 уліковавыдавецкіх аркушаў, або 8500 старонак. Не ведаем, ці ёсць яшчэ ў каго з беларускіх навукоўцаў такі вялікі творчы багаж. На пытанне пра методыку яго навуковай працы і пра тое, як ён змог дасягнуць такіх вынікаў, І. Я. Лепешаў адказвае: "Не скажу, што гэта лёгкі занятак. Не, ён і радасны па завяршэнні, і пакутлівы, ледзь не катаржны. Напрошваецца параўнанне з катаржанінам, які дабраахвотна прыкаваў сябе да пісьмовага стала. А для мяне гэты занятак даўнымдаўно стаў арганічнай патрэбай, другой натурай. Я не магу не пісаць. Мяне як магнітам цягне да гэтага ў вольныя ад аўдыторных заняткаў гадзіны і дні. Выхадных не бывае. Каб штосьці новае сказаць у навуцы, трэба добра ведаць, што зрабілі папярэднікі. Шмат чытаю: навуковую літаратуру, мастацкія творы, часопісы, газеты. Чытаючы, нярэдка знаходжу тое, што можа спатрэбіцца ў далейшым. Увесь час раблю выпіскі з прачытанага. У маёй картатэцы каля 90000 картак. Многія з іх сталі асновай для маіх кніг і артыкулаў. Ёсць і карткі-паказальнікі - дзе што шукаць, па розных тэмах. А галоўнае - самадысцыпліна і праца, праца, штодзённая, напружаная."

Мы, былыя яго студэнты, затым аспіранты, а цяпер аступененыя універсітэцкія выкладчыкі, выказваем яму словы глыбокай удзячнасці за падтрымку і бацькоўскую апеку і ад шчырага сэрца жадаем і надалей заставацца такім жа энергічным, працавітым, няўрымслівым і неспакойным.

*Марына Якалцэвіч,*
*Ірына Хлусевіч,*
*кандыдаты філалагічных навук.*

**Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя "Нашага слова" віншуюць сп. І. Лепешава з 80-годдзем. Мы зычым сталаму нашаму сябру плёну ў працы на карысць Бацькаўшчыны.**



# З'езд гісторыкаў у Кракаве

З 15 да 18 верасня 2004 г. у Кракаве адбыўся 17-ы ўсеагульны з'езд польскіх гісторыкаў, які праходзіў пад дэвізам "Традыцыя і сучаснасць – тоеснасць". Такі з'езд польскіх гісторыкаў збіраецца раз у пяць гадоў. Делегаты з'езду выбіраюцца навуковымі і універсітэцкімі коламі, запрашаюцца і настаўнікі. Паколькі сярод арганізатараў з'езду былі Кракаўскі універсітэт і Кра-каўская педагагічная акадэмія, то на некаторыя сек-цыйныя паседжанні прыходзілі студэнты гэтых вышэйшых навучальных установ.

Галоўнымі тэмамі з'езду былі "Час вялікага пералому ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў 1989-1990 гг", "Еўрапейская тоеснасць і яе змяненні па працягу стагоддзяў" і "Гісторыя Польшчы ў поглядах іншамоўных гісторыкаў".

Але дыяпазон разгляданых пытанняў быў значна шырэйшы. Працавалі сімпозіюмы (секцыі) па розных кірунках гістарычнай навукі: па гісторыі сям'і ў еўрапейскім кантэксце, этнагенезе народаў, па гістарыяграфіі (ад вуснай традыцыі да лічбавага запісу), аб праве ў мінулым і сучасным, аб гістарычнай адукацыі ў Польшчы, аб архівах і іх выкарыстанні гісторыкам, аб гарадах з даўняй гісторыяй і задачах кіраўнікоў турыстычных груп (па прыкладзе Кракава) і іншыя.

Я быў запрошаны аргкамітэтам з'езду для выступу на сімпозіюме "Цэнтральная і Усходняя Еўропа ад X да ХУШ ст." з дакладам "Гаспадарчая роля беларускіх земель у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе ў ранейшай новай эпосе". У сваім дакладзе (зразумела, на польскай мове) я адзначыў асноўныя чыннікі гаспадарчага развіцця Беларусі ў гарадах і сельскай мясцовасці. Сведчаннем развіцця беларускіх гарадоў і мястэчак быў росквіт рамёстваў і пачатак гандлёвых зносін, асабліва ў буйных гарадах.

У выніку развіцця гарадоў у іх уводзілася самакіраванне мяшчанаў паводле магдэбурскага права, з вызваленнем гараджан ад кіравання з боку вялікакняжацкіх (дзяржаўных) чыноўнікаў.

Вялікія зрухі ў эканоміцы Беларусі адбыліся пасля разгрому Тэўтонскага Ордэна ў бітве пад Грунвальдам у 1410 г. Шляхі па Нёману і Заходняй Дзвіне ў Балтыйскае мора былі адкрыты і паступова асвоены. Попыт на сельскагаспадарчую і мясную прадукцыю краін басейну Балтыйскага мора, асабліва скандынаўскіх краін, і гарадоў Ганзейскага саюзу патрабаваў рэформы аграрных дачыненняў у Беларусі і Літве. У выніку "валочнай памеры" 1557 г. у дзяржаўных маёнтках, а потым і ў прыватна-ўладальніцкіх, з прымяненнем метадаў рацыяналізацыі і сельскагаспадарчага прадпрымальніцтва з боку дзяржавы, магнатаў і шляхты ўдалося рэзка падняць прыбыткі ад рэалізацыі сельскагаспадарчай прадукцыі. Аграрная рэформа прывяла і да фактычнай ліквідацыі сялянскай абшчыны. Кожны гаспадар меў свой участак зямлі (звычайна валоку). з якой сам асабіста, а не ўсёй вёскай разам, выплачваў чынш або працаваў у створаных фальварках на пана (або дзяржаву) спачатку два дні ў тыдзень. Псіхалагічна беларускі селянін мусіў сам думаць пра сваю гаспадарку, пра павіннасці, быць свайго кшталту дробным прадпрымальнікам.

У адрозненне ад сітуацыі ў Беларусі, у Расіі сялянская абшчына захавалася яшчэ некалькі стагоддзяў і духу прадпрымальніцтва ў расійскіх сялян не было: усе арганізацыйныя пытанні ў прыгоннай вёсцы вырашаў памешчык, а падаткі і павіннасці сялянская абшчына выконвала па прынцыпу "кругавой парукі". Абшчыну не разбурылі ні цар Аляксандр II падчас адмены прыгоннага права, ні Пётр Сталыпін, ні нават бальшавіцкі пераварот 1917 г. У некаторых рэгіёнах Расіі, асабліва там дзе было мала памешчыкаў, абшчына праіснавала да самага стварэння калгасаў, да самай калектывізацыі.

Падчас агульнай дыскусіі я выступіў наконт поглядаў гісторыкаў у розных краінах на адны і тыя ж гістарычныя падзеі, засяродзіўшы ўвагу прысутных – навукоўцаў і студэнтаў – па праблеме падручнікаў. Зразумела, што гісторыкі кожнай краіны разглядаюць гістарычны працэс перадусім з пункту гледжання нацыянальнай гісторыі. Было б, напрыклад, абсурдам разглядаць гісторыю Францыі з пункту гледзішча нямецкай нацыянальнай канцэпцыі ці гісторыю Расіі – з пункту гледзішча кітайскай ці мангольскай (нашчадкаў Чынгісхана).

Мне прыйшлося нагадаць слухачам пра сучасныя падручнікі па гісторыі Расіі, што шырока выдаюцца для ВНУ у нашага ўсходняга суседа.

Так, да гэтага часу расійскія (як раней і савецкія) гісторыкі апраўдваюць палітыку Сталіна ў канцы 30-х гадоў, разглядаюць захоп прыбалтыйскіх краін як дабраахвотны ўваход у 1940 г. у склад СССР, а не як вынік рэалізацыі дамоўленасці паміж Гітлерам і Сталіным, зафіксаванай у сакрэтным пратаколе ад 23 жніўня 1939 г., аб падзеле паміж імі краін Усходняй еўропы.

Нагадаў слухачам і аб адсутнасці артыкула "Палякі" у адпаведным томе "Вялікай Савецкай Энцыклапедыі" (1940 г.), бо палякі жылі ў Генерал-Губернатарстве, што належала ўжо Нямеччыне. У тым жа томе артыкул "Польшча" пачынаўся словамі: "Так называлася дзяржава, якая існавала паміж Нямеччынай і Расіяй... "Гэтае выродлівае стварэнне версальскай сістэмы было ліквідавана ўдарам германскай арміі, з аднаго боку, і Чырвонай арміі, з другога" (словы В. Молатава, тагачаснага наркама замежных спраў).

Разам з тым адзначыў, што аб'ектыўна ў выніку гэтых падзей быў аб'яднаны беларускі народ у межах дзяржаўнага ўтварэння – БССР, што ў будучым прывяло да захавання беларусаў у адной самастойнай дзяржаве.

З беларускіх гісторыкаў быў запрошаны на з'езд і яшчэ адзін беларускі гісторык-прафесар Алесь Краўцэвіч з Гародні, які чытае лекцыі ў Беластоцкім універсітэце. Ён выступіў з кароткай рэплікай па аднаму з дакладаў. Ён таксама з групай польскіх гісторыкаў па-за межамі з'езду гісторыкаў займаўся арганізацыйнымі пытаннямі выдання новага нумару "Бюлетэня гісторыі пагранічча", які выходзіць на польскай мове ў Беластоку і ў склад рэдакцыі якога ён уваходзіць. На з'ездзе не было іншых беларускіх гісторыкаў ні з Беларусі, ні з Беластоку.

17-ы з'езд польскіх гісторыкаў зрабіў падсумаванне іх дарobку за апошнія пяць гадоў, даў кірункі іх далейшай працы. Адчуваецца, што польскія гісторыкі цяпер больш звязаныя з агульным гуртам гістарычных даследаванняў у еўрапейскіх краінах.

*Анатоль Грыцкевіч, доктар гістарычных навук.*

# ПАМЁР ГЕНАДЗЬ ПЯТКЕВІЧ

У мінулыя выхадныя пакінуў гэты свет знаны краязнавец з Новага Свержаня Генадзь Пяткевіч.

Генадзь Пяткевіч стаяў у пачатку стварэння арганізацыі ТБМ на Стаўпеччыне. доўгі час узначальваў Стаўпецкую раённую арганізацыю Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" выказваюць шчырыя спачуванні родным і блізкім нябожчыка. Мы выказваем упэўненасць, што змаганне Генадзя Пяткевіча не было марным. Беларуская мова, якую ён так любіў, зойме сваё пачэснае месца ў грамадстве, будзе адзінай дзяржаўнай і адзінай агульнанароднай мовай у вольнай і заможнай краіне пад назвай Беларусь.

# ПРЫРОДНЫ ДВАРАНІН

На 94-ым годзе жыцця раптоўна памёр Аркадзь Венядзіктавіч Ракітніцкі... Нарадзіўшыся ў Менску ў 1911 годзе ў сям'і прыродных дваран, ён хлапчуком разам з бацькамі пераязджае жыць на Украіну, дзе вучыцца ў школе, знаёміцца з творамі ўкраінскіх пісьменнікаў і паэтаў. У трыццатыя гады ён займаўся ў вячэрняй студыі Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Я. Купалы, дзе пасябраваў з Б. Платонавым і С. Станютай.

Былі ў яго лёсе: выключэнне з БДУ, праца ліцейшчыкам, удзел у Вялікай Айчыннай вайне. Усе пасляваенныя гады аддадзены даўнейшаму захапленню – шашкам.

Па рэкамендацыі Г. Верасава – вядомага беларускага шахматыста А. Ракітніцкі становіцца інспектарам па шахматах і шашках у Спорткамітэце БССР, далей – дырэктарам Рэспубліканскага шахматна – шашачнага клуба.

Больш за 32 гады сп. Аркадзь быў нязменным вядоўцам шашачнага клуба "Белыя і чорныя" на Беларускім тэлебачанні, меў званне заслужанага трэнера БССР, майстра спорта СССР.

Сакрэтам ягонага даўгалецця з'яўлялася сяброўства са спортам: штодзённыя прабежкі, гантэлі, гімнастыка, штотыднёвая лазня з добрай парылкай...

Мы з Ракітніцкім жылі ў адным мікрараёне, недалёка ад Кальварыі.

Тое, што сп. Аркадзь быў старэйшы за майго дзеда не было перашкодай! Сустракаліся разам па дарозе ў краму. Размаўлялі. Сп. Аркадзь узгадваў Аркадзя Куляшова (свайго сябра) і знаёмства з народным песняром Янкам Купалам.

У 1997 годзе ён заснаваў музей-кабінет шашак у школе ліцэі № 16 г. Менска і выкладаў разам з сынам у шашачным гуртку дзеткам.

У лютым ён пахаваў любага 50-гадовага сына, але трымаўся годна.

Размаўляў заўсёды – па-беларуску. Меў творчыя планы. Запрашаў у госці, але я не спяшаўся. Мабыць, спазніўся..

*Аляксей Шалахоўскі, гісторык.*

Беларуская мова – ТБМ – наша будучыня



## Ахвяраванні на ТБМ

1. Лявон Анацка 5500 р., г. Ліда.
2. Горацкая суполка ТБМ 13000р., г. Горкі.
3. Ждановіч Міхаіл - 3000 р., г. Менск.
4. Скрэчка Анатоль 10000 р., г. Мазыр.
5. Альховіч Ларыса - 5000 р., г. Менск.
6. Чайкоўскі Павел - 10000 р., в. Кунцаўшчына, Менскі р-н.
7. Маслюкоў Тэльман - 7800 р., г. Светлагорск.
8. Шкірманкоў Ф. Ул. - 10000 р., г. Слаўгарад.
9. Кафедра "Беларускіх народных святкаў і абрадаў БДУК – 50000 р., г. Менск.
10. Хадовіч Сяргей 10000 р., г. Менск.
11. Лісоўскі Тарас – 20 дол., г. Менск.
12. Алена Міхалюк 40 фунтаў, Англія.
13. Казлоўская Іна 2000 р., г. Менск.
14. Дынглі Дэныс – 40 фунтаў, Англія.
15. Жытка Іван 5000 р., г. Камянец.
16. Долбік Алесь 5000 р., Карэліцкі р-н.
17. Скрэчка Анатоль -60000 р., г. Мазыр.
18. Сяргейчык Аляксей – 4000 р., г. Менск.
19. Трафімчык Т.У. – 10000 р., г. Слонім.
20. Шкірманкоў Фелікс - 10000 р., г. Слаўгарад.
21. Лыч Леанід 5000 р., г. Менск.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белінвестбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Разам | |

**Касір**

Плацельшчык

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Разам | |

Квітанцыя

**Касір** **М.П.**

Плацельшчык

